ЦАНА 15 кап.

1-шы год выдання

# БЮЛЕТЭНЬ

## Народнага Камісарыята Асветы БССР

*Менск, 15-га лістапада 1934 года*

№ 4

ЗМЕСТ

Стар.

**Пастанова Совета Народных Камісарау БССР.**

Аб арганізацыі кіраўніцтва цыркавымі і эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі пры НКАсветы . 2

Аб фінансавым становішчы тэатраў . „

**Загады НКАсветы.**

На Школьнаму ўпраўленню

Аб праверцы своечасовага ўключэння школ у вытворчы наход імені з'ездаў Советаў . . . . . . . . . 3

Аб асабістай гігіене вучняў . . . . 5

Стар.

**Пастанова Наркомасветы, Прэзыдыума ЦК саюза працасветы і Белкаапсаюза**

Аб правядзенні конкурса на лепшую сталовую і інтэрнат пед. навуч. устаноў . . . . . . . . . . . . . 5

**Па ўпраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў**

Аб упарадкаванні захоўвання студэнцкіх спраў . . . . . . . . . . 8

**Па групе па-зашкольнай работы**

Спіс кінофільмаў, якія рэкамендуюцца для дэманстрацыі дзецям . . 11

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК—1935

# ПАСТАНОВА

## Совета Народных Камісараў БССР

**Менск, 16-XI 1934 г.**

**Аб арганізацыі кіраўніцтва цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі пры НКАсветы**

1. Для палепшання мастацкага абслугоўвання рабочых і калгаснікаў канцэртна эстраднымі і цыркавымі мастацкімі сіламі дазволіць НКАсветы арганізаваць у сваёй сістэме кіраўніцтва цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі на правах самастойнай гаспадарчай арганізацыі на гаспадарчым разліку.

2. Надаць кіраўніцтву цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі пры НКАсветы выключнае права мастацкага абслугоўвання ўсіх пляцовак, клубаў, тэатраў, цыркаў, летніх садоў, паркаў культуры і адпачынку і т. д. на тэрыторыі БССР, забараніўшы ўсім іншым арганізацыям займацца гэтай справай.

3 Прапанаваць НКАсветы на працягу месяца распрацаваць фінансава-вытворчы план кіраўніцтва цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі БССР, а НКФіну вызначыць размер зваротныхсродкаў і крыніцы іх пакрыцця

4. Даручыць НКАсветы зацвердзіць статут „Кіраўніцтва цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі БССР“.

*Нам. старшыні СНК БССР*
*А. Саакян.*

---

# ПАСТАНОВА

## Совета Народных Камісараў БССР

**Менск, 21-XI 1934 г.**

**Аб фінансавым становішчы тэатраў**

Заслухаўшы даклад Народнага Камісарыята Фінансаў БССР і НК Асветы аб выніках абследвання фінансавага становішча тэатраў, Совет Народных Камісараў БССР адзначае нездавальняючы кантроль з боку НКАсветы над арганізацыйна-гаспадарчай дзейнасцю тэатраў, стварыўшуюся безгаспадарчасць, асабліва па тэатру Оперы і Балета, а таксама адсутнічанне належных умоў для выканання пасобнымі тэатрамі вытворча-фінансавага плана (неўрэгулявання становішча з тэатральнымі пляцоўкамі тэатра БДТ-І, Трам), што прывяло да напружанага фінансавага становішча ў тэатрах, дзякуючы чаму стварылася значная запазычанасць па зарплаце.

Выходзячы з гэтага, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асветы сумесна з Народным Камісарыятам Фінансаў утварыць дэталёвую рэвізію тэатра Оперы і Балета, выявіць вінаватых у безгаспадарчасці і ў разбазаранні дзяржаўных грошай і прыцягнуць да судовай адказнасці.

2. Для пакрыцця стварыўшагася дэфіцыта па тэатрах і забеспячэння своечасовай выплаты зарплаты асігнаваць за кошт эканоміі па каштарысу НКАсветы дадаткова 450 тыс. руб.

3. Абавязаць НКАсветы скласці канкрэтны план пастановак кожнага тэатра, распрацаваўшы кашта-

рысы па кожнай асобнай пастанову і арганізаваўшы нагляд за выкананнем плана як у цэлым, так і за выкананнем каштарыса.

4. Даручыць НкФінансаў і НКАсветы прапрацаваць на працягу дэкады фінансава-вытворчыя планы тэатраў на будучы год, устанавіўшы размер асігнавання з бюджэта і прадставіць на зацверджанне СНК БССР.

*Нам. старшыні СНК БССР*
*А. Саакян.*

*Кіраўнік спраў СНК БССР*
*С. Шабалтас.*

---

## ЗАГАД № 1370

### па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**Менск, 29 XI 1934 г.**

**Аб праверцы своечасовага ўключэння школ у вытворчы паход імені з'езду Советаў**

З праверкі раду школ раёнаў (Копыльскі, Веткаўскі Глускі, Чаускі, Быхаўскі) і з справаздач дырэктароў і загадчыкаў школ на паседжанні школьнага ўпраўлення (Унаўская латышская НСШ Лёзненскага раёна—дырэктар т. Велс, Капусцінская руская НСШ Бабруйскага раёна—дырэктар т. Баранскі, Талачынская яўрэйская НСШ—дырэктар т. Шулькоўскі, Белдрэсаўская ўзорная НСШ Аршанскага раёна--дырэктар т Залякоў, Старушкаўская пачатковая школа Жыткавіцкага раёна—загадчык т. Рамашэўскі і інш.) выяўлена, што большасць правераных школ зразумела палітычную сутнасць кампаніі выбараў у советы, своечасова ўключыліся ў вытворчы паход імя з'езду Советаў, узялі зусім канкрэтныя абавязкі як па лініі паднящця непасрэдна вытворчасці, так і па абслугоўванню справаздачна-перавыбарчых сходаў, у выніку чаго: Белдрэсаўская ўзорная руская НСШ, Цёмкавіцкая беларуская сярэдняя школа, Якубоўская польская пачатковая, Веткаўская руская НСШ, Копыльская яўрэйская ўзорная НСШ і Калінінская латышская школа Глускага раёна дабіліся значных поспехаў, як напрыклад: процант паспяховасці вучняў павялічыўся з 87 да 93,36, наведванне школы вучнямі вырасла з 93,4 проц., да 97,8 проц., значна палепшылася штодзённая падрыхтоўка настаўніка да ўрока, арганізаваны і якасна палепшаны гарачыя снеданні і інш.

Настаўніцтва і вучні гэтых школ правялі растлумачальную работу сярод насельніцтва, чым дапамаглі павялічыць процант яўкі выбаршчыкаў на справаздачна-перавыбарчыя сходы, абслугоўвалі сходы мастацкімі выступленнямі, пісалі позвы, лозунгі, плакаты, дыяграмы росту нашай народнай гаспадаркі і інш.

Асобныя школы фармальна ўключыліся ў паход, як напрыклад:

Старушкаўская пачатковая школа- загадчык школы т Рамшэўскі, нічога не чуў аб вытворчым паходзе. Ланцуцкая польская НСШ Копыльскага раёна — адсутнасць усякага кіраўніцтва з боку дырэктара школы т. Валёніс, а адсюль безгаспадарчасць (дрэнная дысцыпліна сярод вучняў, антысанітарыя і інш.).

Капусцінская руская НСШ—дырэктар т. Баранскі дапусціў дрэнную пастаноўку роднай—рускай—мовы і адсутнасць гарачых снеданняў пры наяўнасці моцнай матэ-

рыяльнай базы (прышкольныя зямельныя ўчасткі ў 12 га, сабраны ўраджай, 3-е коняй, каровы і інш. жывёлы).

Веткаўская беларуская ўзорная НСШ—дрэннае кіраўніцтва з боку дырэктара т. Францышова—безгаспадарчасць і дрэнная дысцыпліна сярод вучняў.

Цімкавіцкая яўрэйская НСШ Капыльскага раёна - дырэктар т. Гарлоўскі (антысанітарыя ў школе).

Выходзячы з гэтага з а г а д в а ю:

1 Прэміраваць Якубоўскую польскую пачатковую школу Капыльскага раёна (загадчык т. Іваноўская) грашыма ў 300 руб. за добра праведзеную работу ў справаздачна перавыбарчай кампаніі, за належную пастаноўку педпрацэса за ўзорную санітарыю ў школе.

2. Адзначыць добрую работу па вытворчаму паходу: Веткаўскай рускай НСШ—дырэктар т Еленаў, Капыльскай ўзорнай яўрэйскай НСШ—дырэктар т Шапіро, Калінінскай латышскай пачатковай школы—загадчык т Зёрніс, Цімкавіцкай беларускай НСШ– дырэктар т. Меркін і Белдрэсаўскай узорнай беларускай НСШ — дырэктар т. Залчкоў.

3. Зняць узорнасць з Веткаўскай беларускай узорнай НСШ за безгаспадарчасць, за незабяспечанасць дровамі, за антысанітарыю, за адсутнасць выхаваўчай работы, за дрэнную дысцыпліну сярод вучняў, а дрэнную арганізацыю педпрацэса і за адсутнасць уліку работы. Дырэктару т. Францышову аб'явіць с у р о в у ю в ы м о в у, папярэдзіўшы яго, што калі за працягу двух дэкад школа не будзе прыведзена ў належны выгляд, т. Францышоў будзе знят з пасады дырэктара школы. Загадчыку Райана т. Курганскаму праверыць выкананне і аб выніках далажыць мне персанальна.

4. Дырэктару Цімкавіцкай яўрэйскай НСШ Капыльскага раёна т. Гарлоўскаму за дапушчэнне антысанітарыі ў школе аб'явіць в ы м о в у.

5. Дырэктару Капусцінскай рускай НСШ Бабруйскага раёна т. Баранскаму за неарганізацыю гарачых снеданняў вучням пры наяўнасці прадуктаў—аб'явіць в ы м о в у.

6 Загадчыку Чаускага Райана т. Шэўруку, за неўключэнне школ раёна ў вытворчы паход імя з'ездаў Советаў і за фактычны зрыў паходу аб'явіць в ы м о в у.

7 Прапанаваць Школьнаму ўпраўленню выклікаць у НКА дырэктара Ланцуцкай польскай НСШ т. Валёніс для даклада аб рэалізацыі прапаноў, зробленых інспектарам НКАсветы т. Хвежанка.

8. Школьнаму ўпраўленню працягваць выклік дырэктароў і загадчыкаў школ для даклада аб уключэнні ў вытворчы паход імя з'ездаў Советаў.

9. Папярэдзіць усіх загадчыкаў Райана дырэктароў і загадчыкаў школ аб неабходнасці стварэння зусім нармальных умоў для работы школ—арганізацыя гарачых снеданняў, вывазка апалу, забяспечанне вучняў абуткам і вопраткай, ліквідацыя антысанітарыі ў школе і асабістай антыгігіены кожнага вучня

10. Катэгарычна прапанаваць загадчыкам АНА, дырэктарам і загадчыкам школ канкрэтызаваць свае абавязкі па ўключэнню ў вытворчы паход імя з'ездаў Советаў, мабілізаваўшы настаўніцкі калектыў і вучняў на лепшае паспяховае заканчэнне другой чвэрткі навучальнага года, па лініі ўсёй вучэбна выхаваўчай работы на правапарта з'ездам Советаў і быць занесенымі ў чырвоную кнігу гонару.

*Нам. наркома асветы БССР*
*Ляшчынскі.*

# ЗАГАД № 1354

## па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**Менск, 23-XI 1934 г.**

**Аб асабістай гігіене вучняў**

З праверкі раду школ Суражскага, Копыльскага, Глускага, Рэчыцкага, Чашніцкага, Веткаўскага і інш. раёнаў устаноўлена, што дырэктары і загадчыкі школ зусім мала звяртаюць увагі на асабістую гігіену вучняў (брудныя рукі, шыя, бялізна, верхняя вопратка; не астрыжаны, не падпаясаны, у класах ходзяць у галошах і інш.).

Загадваю:

Катэгарычна абавязаць усіх дырэктароў і загадчыкаў школ сачыць штодня за асабістай гігіенай вучняў, для чаго:

1. Рабіць стрыжку хлопчыкам пад машынку, а дзяўчынкам пад прычоску да 7 класа ўключна
2. Правяраць чыстату рук, шыі, вушэй, бялізны і верхняй вопраткі
3. Як правіла, перад гарачымі снеданнямі і пасля абавязкова мыць рукі.
4. Забараніць хадзіць у галошах у класных пакоях, а таксама сядзець на занятках у паліце.
5. Вучням — хлопчыкам — быць падпаясанымі.
6. Усім вучням мець насавыя хустачкі.

Загадчыкам Райана і школьным інструктарам пры праверцы работы школ звяртаць увагу не толькі на арганізацыю педпрацэса, пастаноўку метадычнай работы, але і на асабістую гігіену кожнага вучня і санітарыю ўсёй школы.

*Нам. наркома асветы БССР*
*Ляшчынскі.*

---

# ПАСТАНОВА

## Наркомасветы, Прэзідыума ЦП саюза працасветы і Белкаапсаюза

**Аб правядзенні конкурса на лепшую сталовую і інтэрнат пед. навуч. устаноў.**

Пастанова СНК СССР ад 23/XI 33 г. аб мерапрыемствах па палепшанню грамадскага харчавання студэнтаў і пастанова ЦК ВКП(б), апублікаваная 6/X 34 г. у газеце „Правда", вызначаюць разгорнутую праграму па перабудове работы сталовых і палепшанні матэрыяльна-бытавых умоў студэнцтва. Гэтыя пастановы абавязваюць студэнцкую грамадскасць, адміністрацыю пед. навучальных устаноў, кааперацыйныя і совецкія органы палепшыць работу сталовых і матэрыяльна-бытавое становішча студэнтаў, якое-б з'явілася сапраўдным фактарам садзейнасці павышэнню якасці вучобы. У мэтах хутчэйшага і поўнага ажыццяўлення гэтых пастаноў і рашучага палепшання якасці работы сталовых і матэрыяльна-бытавых умоў студэнтаў Наркомасветы, прэзідыум ЦП саюза працасветы і Белкаапсаюз аб'яўляюць конкурс на лепшую сталовую, інтэрнат з 15/XI-34 г. па 15/VI-35 г.

**Умовы конкурса**

Асноўнай мэтай конкурса з'яўляецца: рашучае палепшанне якасці грамадскага харчавання і бытавых умоў студэнтаў і падпарадкаванне іх павышаным запатрабаванням якасці вучобы. За час конкурса павінны быць цалкам вырашаны асноўныя пытанні палепшання харчавання і захавання санітарна-гігіенічнага рэжыма ў сталовых і інтэрнатах.

**Паказальнікі**

(Якасць харчавання)

а) Забяспечыць правільную кулінарную апрацоўку прадуктаў і прыгатавання стравы.

б) Рознастайнасць стравы (не менш двух першых і трох другіх блюд).

в) Ліквідаваць перавыхады і недавыхады блюд і знішчыць брак.

г) Набор прадуктаў на абед давесці не ніжэй норм раскладак Белкаапхарча за лік разгортвання дэцзагатовак.

д) Каларыйнасць абедаў не менш 700—800 калорый.

е) Увесці выдачу гарачых снеданняў і вячэру для студэнтаў.

ж) Ліквідаваць факты растрат і раскрадвання прадуктаў.

з) Забяспечыць поўнае выкананне квартальных промфінпланаў, рэнтабельнасць сталовых і пастаноўку ўліку і справаздачнасці перад вышэйстаячымі гаспадарчымі ўстановамі.

і) Атрыманне ўсіх прадуктаў, вызначаных па цэнтралізаванаму забеспячэнню.

**Санітарнае становішча сталовых і інтэрнатаў**

а) Адрамантаваць і абсталяваць своечасова неабходнымі рэчамі ўсе (інтэрнаты ложкі, бялізна, умывальнікі, вешалкі, і інш.).

б) Жорсткае захаванне правіл унутранага распарадку і падтрыманне санітарнага становішча ў сталовых і інтэрнатах, захаванне асабістай гігіены работнікаў.

в) Санітарна-гігіенічная апрацоўка прадуктаў і хаванне іх.

г) Арганізацыя і палепшанне работы студэнцкіх пралень, цырульней, пакояў адпачынку, пачыначных майстэрань і інш.

д) Рэгулярнае і своечасовае наведванне лазні.

**Абслугоўванне**

а) Поўная ліквідацыя чаргі ў сталовых, скарачэнне затрачваемага часу студэнтамі на абед, снеданне і вячэру.

б) 100-процантны ахоп студэнтаў грамадскім харчаваннем.

в) Пераважнае абслугоўванне ўдарнікаў (палепшанне харчавання).

г) Культурныя адносіны абслугоўваючага персанала да студэнтаў і студэнтаў да тэхперсанала.

д) Штодзённа чыста прыбіраць сталовыя і інтэрнат і кожную пяцідзёнку праводзіць мыццё памяшкання.

**Работа буфетаў**

а) Палепшыць і павялічыць асартымент прадуктаў, а таксама павялічыць колькасць прадуктаў у буфетах з разлікам забеспячэння на 50 кап. кожнага студэнта ў дзень.

б) Зніжэнне кошту прадуктаў у буфеце на 15 проц. за кошт недапушчэння перавышэння канвенцыйных цэн на загатоўчыя прадукты.

в) Арганізаваць філіялы буфетаў па інтэрнатах.

**Дапаможная гаспадарка**

а) Арганізаваць свінарнікі і павялічыць колькасць галоў у іх з такім разлікам, каб на 15 студэнтаў прыходзілася 1 штука.

б) Поўнае выкарыстоўванне адкідаў на свінаадкормачныя пункты.

в) Арганізаваць прыгарадную гаспадарку з разлікам 3 га на 100 студэнтаў.

г) Выкарыстоўванне атрымліваемых прадуктаў ад дапаможных гаспадарак выключна на палепшанне харчавання студэнтаў.

**Арганізацыя і вядзенне гаспадаркі**

а) Увядзенне гасразліку ва ўсіх галінах работы прадпрыемстваў (сталовыя, свінаадкормачныя пункты, прыгарадныя гаспадаркі рамонтныя майстэрні, пральні, цырульні і інш.).

б) Барацьба за палепшанне прадукцыйнасці працы, ліквідацыю абязлічкі, умацаванне працдысцыпліны (ніводнага прагулу і слазнення на работу).

в) Перавод на здзельшчыну работнікаў сталовай і іншых прадпрыемстваў.

г) Павышэнне ўдзельнай вагі паступлення прадуктаў ад дэцэнтзагатовак да 100 проц. у параўнанні з колькасцю прадуктаў, атрымліваемых у цэнтралізаваным парадку.

д) Павышэнне кваліфікацыі работнікаў шляхам арганізацыі гурткоў і ўцягнення кожнага работніка ў гурток або вячэрнюю школу, правядзенне соцтэх., санітарнага мінімума сярод работнікаў прадпрыемстваў і інтэрнатаў.

е) Забяспечыць сталовыя неабходным інвентаром і абсталяваннем.

**Палажэнне для правядзення конкурса**

Для правядзення конкурса стварыць камісію ў саставе тт. Ляшчынскага, Грыцкевіча, Зянькевіча, Рамановіча, Чуйко і Бычэўскага. Кіраўніцтва па правядзенню конкурса ўскласці на дырэктароў, старшынь профкомаў і загадчыкаў сталовых і ЗСК пед навучальных устаноў. Кожнага 1 га чысла прадстаўляць інфармацыйныя зводкі ў Цэнтральную конкурсную камісію пры ЦП саюза па выкананню паказчыкаў. У конкурсе могуць удзельнічаць усе сталовыя, інтэрнаты і ЗСК пед. навучальных устаноў.

**П р э м і і**

Для прэміравання лепшых сталовых і інтэрнатаў, якія заваююць першынства ў барацьбе за ажыццяўленне ўмоў конкурса, выдзеліць 6 прэмій:

Для сталовых:

1) 1000 руб., 2) 700 руб., 3) 500 руб.

Для інтэрнатаў:

1) 1000 руб. 2) 600 руб., 3) 400 руб. Персанальныя прэміі: дырэктарам старшыням профкомаў, загадчыкам сталовых, паварам і загадчыкам ЗСК:

1) 500 руб., 2) 300 руб., 3) 300 руб.

Абавязаць дырэктароў, старшынь профкомаў, загадчыкаў сталовых загадчыкаў ЗСК разгарнуць масавую работу па арганізацыі конкурса, уключыцца ў яго правядзенне і арганізаваць сапраўдную барацьбу за заваёву першага месца. Устанавіць што вынікі конкурса павінны быць падведзены не пазней 15-га чэрвеня.

Тэрмін уключэння—да 15-га снежня 1934 года.

*Наркомасветы.*

*ЦП саюза працасветы.*

*Белкаапсаюз.*

## Аб упарадкаванні захоўвання студэнцкіх спраў

Заўважана, што многія навучальныя ўстановы дрэнна адносяцца да захоўвання студэнцкіх спраў, ад чаго некаторыя дакументы студэнтаў губляюцца.

У мэтах сталага ўліку дакументаў студэнтаў і належнага іх захоўвання НКА прапануе:

І. Пад асабістую адказнасць дырэктароў педагагічных навучальных устаноў завесці справы на кожнага студэнта, у якія ўкладваць усе яго дакументы, пададзеныя ім у часе паступлення ў навучальную ўстанову, а таксама дакументы аб студэнце, паступаючыя ад іншых устаноў у час яго навучання і напісаныя навучальнай установай (загады аб узнагародах і спагнаннях, копіі выдадзеных справак і інш.).

Вокладкі спраў павінны быць картонныя або з тоўстай паперы.

На левым баку левай вокладкі павінны быць надпісы, якія б сведчылі:

1) Аб часе паступлення ў навучальную ўстанову.

2) Аб аддзяленні (нацыянальным), факультэце, курсе і групе, у якой вучыцца студэнт.

3) № справы (па спіску студэнтаў навучальнай установы).

4) Прозвішча, імя і імя па бацьку студэнта (поўнасцю).

На правым баку левай вокладкі павінен быць опіс дакументаў, якія ёсць у справе (назва дакумента, аб чым сведчыць, кім выдадзен, якога чысла і за якім нумарам выдадзен дакумент).

ІІ. Завесці дакладны опіс усіх спраў студэнтаў у алфавітным парадку па факультэтах, курсах і групах.

1) Пры пераходзе студэнта ў іншую навучальную ўстанову або пры выбыцці студэнта па іншых прычынах, опіс дакументаў у справе завяраецца сакратаром навучальнай часткі.

2) Дакументы на выбыўшых студэнтаў захоўваюцца ў архіве навучальнай установы, а пасля 5 ці год з часу выбыцця студэнта перадаюцца цэнтральнаму архіву па асобнаму опісу ўсіх перадаваемых спраў.

3) Дакументы студэнтаў павінны знаходзіцца ў спецыяльна прыстасаваных шафах з добрымі замкамі. Ключ з шафы павінен знаходзіцца ў асоб, якім даручана вядзенне студэнцкіх спраў.

4) Перадача студэнцкіх спраў, пры змене адказных за іх асоб, павінна ўтварацца па акту спецыяльнай камісіі і опісу. Камісія ўтвараецца загадам па ўстанове.

Усю работу па ўпарадкаванню студэнцкіх спраў правесці да 1-га студзеня 1935 года.

*Нам. наркома асветы БССР*
*Ляшчынскі.*

*Нам. нач. упраўлення падрыхтоўкі настаўнікаў НКА Рамановіч.*

# ЗАГАД № 64

## па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**Менск, 11/I-1935 года**

**Аб надбаўках да зарплаты ў сувязі з адменай картачнай сістэмы на хлеб, крупу і інш. прадукты.**

У выкананні пастановы СНК БССР аб адмене картачнай сістэмы па хлебу, крупе і інш. прадуктам, з а г а д в а ю:

1) Размеркаваць адпушчаныя ліміты па надбаўцы на зарплату:

а) Дэрэктарам, прафесарска-выкладчыцкаму персаналу ўсіх ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, навуковых устаноў, акторам дзяржаўных тэатраў, а таксама адм.-кіруючаму персаналу дзярж. тэатраў і інш., якія снабжаліся па асобаму спісу —па 16 руб. у месяц.

б) Дырэктарам і заг. школ, настаўнікам масавай школы, заг. і педперсаналу дз. дамоў і дз. садоў, працоўнікам палітасветы, дырэктарам, настаўнікам і прафесарска-выкладчыцкаму персаналу тэхнікумаў, ВНУ, рабфакаў, навуковым працаўнікам навуковых устаноў, настаўнікам школ дарослых, заг. Райтэхнічных дзіцячых станцый, піонерпрацаўнікам, акторам дзяржаўных тэатраў і інш. асобам, якія снабжаліся па 1-му спісу—13 р. 50 к. у месяц.

в) Дырэктарам і заг. школы, настаўнікам масавай школы, заг. педперсаналу дз. дамоў, і дз садоў, усім паліасветпрацаўнікам, бібліятэкарам, заг. бібліятэк, заг. РДСК і ДСК, дырэктарам, настаўнікам і прафесарска выкладчыцкаму персаналу тэхнікумаў, рабфакаў, ВНУ, навук. працаўнікам навуковых устаноў, настаўнікам школ дарослых, заг. дзіцячых тэхнічных станцый, піонерпрацаўнікам, акторам, дзяржаўных тэатраў і інш. асобам якія снабжаліся па 2-му спісу—па 10 руб. у месяц.

2. Рабочыя, адм.-тэхнічны персанал, тэхнічна-абслугоўваючы персанал, атрымліваўшыя цэнтралізаванае снабжэнне палучаюць надбаўку:

а) Атрымліваўшыя па 1-му спісу рабочыя і прыраўнёныя да іх —14 руб. у месяц; служачыя— 9 руб у месяц.

б) Атрымаўшыя па 2-му спісу, рабочыя 9 руб. у месяц; служачыя 7 р. 50 кап.

в) Атрымоўваўшыя па 3-му спісу 1-й катэгорыі,—4 р. 50 к.

3) Надбаўкі на зарплату выдаюцца толькі фізічным асобам па аснаўному месцу працы Катэгарычна забараняецца выплата надбавак па сумяшчальнасці

4) Групе снабжэння пры НКА ў 1-дзённы тэрмін, на падставе ўдасканаленых кантынгентаў, размеркаваць кантынгенты ў раённым разрэзе і па асобным установам па спісам снабжэння і прадставіць мне на зацверджанне.

*П. п. Нам. Наркомы Асветы БССР*
*Дунец.*

Усім ГарРайФА, ГарРайАНА і ўстановам, падпарадкаваным НКАсветы да кіравання.

*П. п Нам. Наркома Фінансаў БССР*
*Еліне ўскі.*

*Нам. Наркома Асветы БССР*
*Дунец*

З г о д н а:

13/I-35 г.

# ЗАГАД № 67

## па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**Менск, 13/I-1935 года.**

У адпаведнасці з пастановай СНК БССР „Аб адмене картачнай сістэмы“ па некаторым прадуктам, устанавіць з 1/1-35 года наступныя надбаўкі да стыпендыі для стыпендыятаў навучальных устаноў Сістэмы НКА:

1 Парттысячнікам ВНУ—15 руб. у месяц.

2 Стыпендыятам ВНУ і рабфакаў—13 руб у месяц.

3 Стыпендыятам тэхнікумаў—12 руб. у месяц.

Фінгрупе неадкладна перавесці крэдыты ўстановам для выплаты стыпендыі на студзень месяц.

*П. п. Нам. Наркома Асветы БССР*
*Лешчынскі.*

Усім навучальным уст новам, падпарадкаваным НКА—да кіравання.

*Кіраўнік фінгрупа НКА*
*Бун мовіч.*

Згодна:

# СПІС

## кінофільмаў, якія рэкамендуюцца для дэманстрацыі дзецям

| №№ | Назва | Колькасць частак і вытворчасць | Змест |
|---|---|---|---|
| | **Фільмы для дзяцей ад 8 да 10 год.** | | |
| 1 | Генерал Таптыгін | 2, Соўкіно, 1929 г | Па аднаіменнаму твору Некрасава. |
| 2 | Кім быць (гук.) | 4, Соўкіно, 1931 г. | Кароткая характарыст. асобных прафесій (па аднаіменнаму твору Маякоўскага). |
| 3 | Маленькія і вялікія | 5, Саюзкіно, 1928 г. | Барацьба дзяцей за дзіцячы пакой у жакце. |
| 4 | Сапраўдныя паляўнічыя | 5, Саюзкіно, 1930 г. | Праца і жыццё піонерскага лагера натуралістаў. |
| 5 | Адбітак часу | 5, Белдзяржкіно, 1932 г. | Удзел піонераў у абароне краіны. |
| 6 | Прыгоды Арышкі | 5, Міжрабпомфільм, 1929 г. | Жорсткая эксплаатацыя гаспадаром сваёй малпы Арышкі. Бегства Арышкі і яе прыгоды. |
| | **Фільмы для дзяцей ад 10 да 12 год.** | | |
| 1 | Бамбіст | 5, Саюзкіно, 1931 г. | Удзел дзяцей рабочых у грамадзянскай вайне. |
| 2 | Ляціф | 5, Азеркіно, 1930 г. | Класавая барацьба ў вёсцы, шкодніцтва кулакоў у калгасе. Выкрыццё гэтага шкодніцтва адным хлопчыкам — сынам бедняка. |
| 3 | Хлопчык з табара | 6, Украінфільм 1929 г. | Класавае расслаенне цыганскага табара. |
| 4 | Лягавы | 5, Саюзкіно, 1930 г. | Перавыхаванне беспрытульнага. |
| 5 | На каньні | 2, Саюзкіно, 1931 г. | Розныя віды конькабежнага спорта. Гульні, масавае фігурнае катанне. Карнавал. |
| 6 | Мінг | 5, Саюзкіно, 1932 г. | Жыццё і быт маленькай сібірскай народнасці тэфа. Значэнне собаляў у народнай гаспадарцы. |
| 7 | Адчаяны батальён | 6, Саюзфільм, 1933 г. | Удзел дзяцей у соцбудаўніцтве. |
| 8 | Па Совецкай Абхазіі | 3, Усходкіно 1931 г. | Прырода і віды Абхазіі. |

| №№ | Назва | Колькасць частак вытворчасць | Змест |
|---|---|---|---|
| 9 | Завадны жук | 5, Соўкіно, 1928 г. | Барацьба піянераў за ўцягненне неарганізаваных рэбят у свае шэрагі. Дзіцячае вынаходства. |
| 10 | Роальд Амундсен | 3, Саюзкіно, 1933 г. | Вандраванне Роальда Амундсена к паўночнаму і паўднёваму полюсам. |

**Фільмы для дзяцей ад 12 да 14 год.**

| №№ | Назва | Колькасць частак вытворчасць | Змест |
|---|---|---|---|
| 1 | Амерыканка | 6, Дзяржкіно, вытв. Грузіі, 1930 г. | Падпольная работа і падрыхтоўка да паўстання 1905 г. Перыяд ад рэвалюцыі 1905 г. да Кастрычніка |
| 2 | Амерыканка з Багдада | 7, Узбеккіно, 1930 г. | Барацьба за развіццё бавоўнаводчых калгасаў у Узбекістане. |
| 3 | Арсенал (выкінуць эпізоды:ураднік з дзяўчынай, смех атручанага газам). | 7, Украінфільм, 1929 г. | Барацьба рабочага класа за перамогу Кастрычніка на Украіне. Паўстанне рабочых кіеўскага арсенала ў 1918 годзе. Роля партызаншчыны. Выкрыццё украінскіх нацыяналістаў. |
| 4 | Булат Батыр | 7, Соўкіно, 1925 г. | Паўстанне татар у саюзе з Пугачовым пры Екацерыне II. |
| 5 | Броненосец Пацёмкін | 5, Дзяржкіно, 1925 г. | Эпізод з рэвалюцыі 1905 г. Паўстанне на броненосцы „Пацёмкін-Таўрычаскі". |
| 6 | У краіне 7 рэк | 4, Саюзкіно, 1929 г. | Геаграфічны нарыс Сямірэчча Казакская ССР, совецізацыя края. |
| 7 | У тайгу за метэарытам | 5, Соўкіно, 1928 г. | Вандраванне навуковай экспедыцыі Акадэміі навук у 1928 г. у Сібірскую тайгу за метэарытам. |
| 8 | Разам з бацькамі | 6, Украінфільм, 1932 г. | Рэвалюцыйная барацьба піянераў Заходняй Украіны. |
| 9 | Сустрэчны (гукавы) | 6, Саюзкіно, 1932 г. | Барацьба за сустрэчны плана і ўплыў яго на старых рабочых. Соцспаборніцтва і яго уплыў на старых рабочых. |
| 10 | Вышыня 88,6 | 7, Белдзяржкіно, 1931 г. | Ваенна тактычны эпізод, малюючы будучую вайну імперыялістаў супроць СССР. |

| №№ | Назва | Колькасць частак і вытворчасць | Змест |
| --- | --- | --- | --- |
| 11 | Блакітны пясец | 6, Усходкіно, 1930 г. | Рэволюцыя ў быту народнасцей Поўначы пад уплывам развіваючагася соцбудаўніцтва. Класавая барацьба. |
| 12 | Гарры займаецца палітыкай | 6, Саюзкіно, 1933 г. | Класавая барацьба за рубяжом. Удзел піонераў у гэтай барацьбе. |
| 13 | Два броневікі | 6, Соўкіно, 1928 г. | Эпізод Кастрычніцкай рэволюцыі ў Ленінградзе (быўш. Петраградзе). |
| 14 | Блакітны экспрэс (перамантыраван для дзяцей) | 5, Соўкіно, 1929 г. | Эпізод з рэволюцыйнай барацьбы кітайскіх рабочых. |
| 15 | Панове Скацініны (перамантыраван для дзяцей) | 6, Дзяржкіно | Паўстанне прыгонных у дні пугачоўскага руху. Расправа дваран з пастаўшымі. |
| 16 | Палац і крэпасць | 6, Соўкіно, 1924 г. | Гісторыя рэволюцыянера; заключонага ў Петрапаўлаўскую крэпасць. |
| 17 | Маць | 7, Межрабпомфільм, 1926 г. | Рэволюцыйныя падзеі ў 1900-902 гг. Прабуджэнне класавай свядомасці ў жанчыны, маці рабочага Паўла Власава, яе рэволюцыйная работа. |
| 18 | Масква ў Кастрычнік | 6, Межрабпомфільм. Русь, 1921 г. | Хроніка Кастрычніцкіх падзей у Маскве. |
| 19 | Вогненны рэйс | 6, Межрабпомфільм, 1930 г. | Калчакаўшчына. Падпольная работа большэвікоў. Арганізацыя партызанскага атрада. |
| 20 | Востраў Тугуй | 6, Дзяржваенкіно, 1929 г. | Жыццё і быт пагранічнай аховы. Барацьба з белаэмігрантамі, якія імкнуцца перайсці совецкую граніцу. |
| 21 | Хлопец з берагоў Місуры | 7, 1931 г. | Арганізацыя ў СССР інтэрнацыянальнай комуны. Крызіс капіталізма ў Амерыцы. |
| 22 | Пятнаццаты (гукавы) | 5, 1932 г. | Свята 1 Мая ў Маскве, 1932 г. |

| №№ | Назва | Колькасць частак і вытворчасць | Змест |
|---|---|---|---|
| 23 | Пераможцы ночы (гукавы) | 6, 1932 г. | Гісторыя арктычных паходаў. Барацьба за совецкую Арктыку. Жыццё совецкіх зімоўшчыкаў. |
| 24 | Рваныя башмакі (гукавы) | 6 Межрабпомфільм, 1933 г. | Барацьба піонераў за рубяжом. |
| 25 | Рубікон | 7, 1930 г. | Рост класавай пролетарскай самасвядомасці ў іншакраіннага матроса пад уплывам соцбудаўніцтва ў СССР. |
| 26 | Транспарт агню (за выключэннем кадраў, абыгры аючых выраз на грудзі Рыты і голай васковай жаночай фігуры) | 6, Саюзкіно, 1929 г. | Падпольная работа па перавозцы зброі ў эпоху рэволюцыі 1905 г. |
| 27 | Уцірайце слёзы | 6, Саюзкіно | Рэволюцыйная барацьба нямецкіх піонераў. |
| 28 | Фрыц Баўэр | 7, Соўкіно, 1930 г. | Жыццё і быт нямецкіх піонераў. |

**Фільмы для дзяцей ад 14 да 16 год**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Абрэк Заур | 10, Дзяржкіно, 1926 г. | Барацьба абрэкаў з царскім урадам, становішча горцаў Каўказа пад гнётам самаўладства і мясцовай буржуазіі. |
| 2 | Дэкабрысты | 8, Соўкіно, 1926 г. | Цараванне Нікалая I, сяляне пакутуюць у рабстве. Салдаты падаўлены палачнай дысцыплінай. Паўстанне дэкабрыстаў. |
| 3 | Два друга мадэль і падруга | 6, Саюзкіно, 1927 г. | Вынаходніцтва. Барацьба з бюракратызмам. |
| 4 | Дон Дыего і Пелагея | 6, Межрабпом фільм | Барацьба комсамольск. ячэйкі з бюракратызмам. |
| 5 | Залаты ключ | 6, 1929 г. | Першыя этапы класавай барацьбы рабочых у царскай Расіі. Становішча прыгонных сялян і першых рабочых у эпоху Паўла I. |
| 6 | Інжынер Елагін | 6, Соўкіно, 1923 г. | Шкодніцтва ў паравозным будаўніцтве; бацька, совецкі спецыяліст, выдае сынабелагвардзейца. |

| №№ | Назва | Колькасць частак і вытворчасць | Змест |
|---|---|---|---|
| 7 | Канвеер смерці (гукавы) | Саюзфільм, 1933 г. | Класавыя бойкі ў Германіі. |
| 8 | Падзенне дынастыі Раманавых | 7, Саюзкіно, 1927 г. | Царская Расія ў гады рэвалюцыі. Сусветная вайна. |
| 9 | Пецербургская ноч (гукавы) | 6, 1933 г. | Жыццё музыканта да рэвалюцыі. |
| 10 | Ненавісць | 6, Белдзяржкіно | Класавая барацьба ў Польшчы. Падаўленне забастоўкі рабочых электрастанцыі. Здрадніцтва ППС. |
| 11 | Свята св. Іоргена (за выключэннем сцэны мнімага Іоргена з сваёй нявестай) | 7, Межрабпомфільм, 1930 г. | Выкрыццё рэлігійнага абману мас на Захадзе. |
| 12 | Пат›мак Чынгіс-Хана | 6, Межрабпомфільм, 1928 г. | Нацыянальнае прыгнечанне бурата манголаў. Барацьба з імперыялізмам. |
| 13 | Здань, якая не варочаецца | 7, Соўкіно, 1929 г. | Капіталістычная турма. Рэволюцыйны рух рабочых нафтавікоў. |
| 14 | Сёмы спадарожнік | 6, Саюзкіно, 1926 г. | Грамадзянская вайна. Пераход адстаўнога генерала на бок рэволюцыі. |
| 15 | Сіні пакет | 6 | Барацьба Чырвонай арміі з белапалякамі. |
| 16 | Шчаслівы Кент | 6, Саюзкіно, 1930 г. | Барацьба зарубежнага пролетарыята. Процістаўленне арганізаванай барацьбе рабочых—барацьбу адзіночак за сваё матэрыяльнае становішча. |
| 17 | Чалавек без футляра | 6, Украінфільм, 1931 г. | Барацьба за політэхнічную школу. |
| 18 | Эліcо | 6, Дзяржкіно, вытв. Грузіі, 1928 г. | Каланіяльная палітыка царскага ўрада на Каўказе. Рэлігійная рознь горцаў. |
| 19 | Салдацкі сын | Саюзкіно | Жыццё і барацьба дзяцей рабочых у 1905 г. |
| 20 | Чапаеў | 6, Ленфільм, 1934 г. | Па аднаіменнаму твору Фурманава. |
| 21 | Тры песні аб Леніне | 6, Межрабпомфільм, 1934 г. | Жыццё і работа В. І. Леніна. |

*Кіө унешкольнай групы Касперовіч.*

Адказны рэдактар Багуслаўскі

